ГРОДНА
№18 (570),
10 кастрычніка 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Евангелле, напісанае жыццём




*18 кастрычніка ўспамінаем св. евангеліста Луку, заступніка ўрачоў і жывапісцаў.*

на старонцы 2

## У Гродзенскай ВДС распачаўся новы навучальны год




*Апостальскі нунцый абп Антэ Ёзіч да семінарыстаў: "Няхай малітва стане для вас нагодай да асабістай сустрэчы з Богам".*

на старонцы 4

## Грузія навучыла мяне не баяцца празмернасці ў любові



*Місіянер – не толькі той, хто нясе Хрыста туды, дзе Яго не ведаюць, але і кожны хрысціянін, што нясе Добрую Навіну ў сваё асяроддзе.*

на старонцы 6

# МІЛЬЁН ДЗЯЦЕЙ МОЛІЦЦА НА РУЖАНЦЫ!




**Дзеці з усіх кантынетаў злучацца ў Ружанцовай малітве 18 кастрычніка, у Дзень св. евангеліста Лукі, які распавёў гісторыю дзяцінства Езуса і, паводле традыцыі, лічыцца асобай, блізкай Маці Божай. Упершыню ў акцыі "Мільён дзяцей моліцца на ружанцы" прымуць удзел і ўсе дыяцэзіі нашай краіны.**

на старонцы 3

## КС. ВІТАЛЬ ЦЫБУЛЬСКІ:
# "ФЭСТЫ – ТРАМПЛІН ДА ДУХОЎНАГА ПАЛЁТУ"






*"Novafest" праходзіў пад дэвізам "Праслаўляць Бога ў Духу і праўдзе" (Ян 4, 23)*

**У Беларусі немагчыма не заўважыць рост колькасці рознага кшталту хрысціянскіх мерапрыемстваў. Найчасцей яны ладзяцца вакол парафій аднак іх аўдыторыя выходзіць нашмат далей за гэтыя межы. Лавінападобнасць з'явы пацвярджае яе запатрабаванасць і адпаведнасць часу. Пра гэта сёння размаўляем з арганізатарам "Novafest" ва Уселюбе.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Кожны кастрычнік прысвечаны Марыі і прыгожай Ружанцовай малітве, у якой спалучаюцца і ўзаемадапаўняюцца разнастайныя малітвы: праслаўленне, хвала, маленне, заступніцтва, падзяка. Папа Лей XIII бачыў у Ружанцы "скарачэнне ўсёй хрысціянскай рэлігіі" і "кароткі змест усяго Евангелля".*

*Св. Ян Павел II неаднаразова заклікаў заўсёды маліцца Ружанцам, як у касцёльных супольнасцях, так і ў сваіх сем'ях. Падчас паўтараемых заклікаў гэтая малітва яднае сэрцы, вядзе да прымірэння, ажыўляе надзею і дае ўсім нам супакой і радасць Хрыста, які нарадзіўся, памёр і ўваскрос для нас.*

*Давайце накіруемся ў школу Марыі і навучымся ў Яе, Маці і апостала Хрыста, як жыць у поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі хрысціянскай веры.*

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**13 кастрычніка**

***Успамін бл. Ганарата Казьмінскага, прэзбітэра.***

*Бл. Ганарат, капуцын, быў шанаваным прапаведнікам, запатрабаваным спавядальнікам і духоўным кіраўніком, а таксама папулярным рэлігійным пісьменнікам. Ён заснаваў мноства рэлігійных кангрэгацый, пераважна бесхабітовых. На працягу ўсяго жыцця намагаўся дапамагчы людзям пазнаць Божую любоў да чалавека.*

**14 кастрычніка**

***Успамін св. Маргарыты Марыі Алакок, панны.***

*Св. Маргарыта вядомая, перш за ўсё, дарам прыватных аб'яўленняў. У 1673–1689 гадах яна перажыла перад Найсвяцейшым Сакрамантам 80 бачанняў і аб'яўленняў, звязаных з таямніцай Сэрца Езуса, 30 з якіх апісала. Збаўца папрасіў Маргарыту, каб у пятніцу пасля актавы Божага Цела адзначалася свята ў гонар Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса з прыняццем – як кампенсацыі яму – Камуніі і малітвай перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Пан Езус таксама перадаў праз яе 12 вялікіх абяцанняў тым, хто ўшаноўвае Яго Найсвяцейшае Сэрца.*

**15 кастрычніка**

***Успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.***

*У дзяцінстве св. Тэрэза марыла аб пакутніцтве за веру. На 20-ым годзе жыцця яна ўступіла ў кляштар кармэлітак. Ідучы за Божым натхненнем, рэфармавала свой ордэн, заснаваўшы 32 манастыры. З дапамогай св. Яна ад Крыжа распачала таксама рэформу кармэлітаў. Новая галіна ордэна атрымала назву кармэліты босыя. Грунтуючыся на асабістым вопыце, напісала шэраг твораў, якія з'яўляюцца жамчужынамі містычнай літаратуры.*

**22 кастрычніка**

***Успамін св. Яна Паўла II, папы.***

*Св. Ян Павел II як руплівы пастыр асаблівым чынам клапаціўся пра сем'і, моладзь і хворых. Здзейсніў шматлікія апостальскія падарожжы ў самыя далёкія куткі свету. Асаблівым плёнам яго духоўнай спадчыны з'яўляецца, між іншым, багаты магістэрый, прамульгацыя Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, Кодэкса кананічнага права Лацінскага Касцёла і Усходніх Цэркваў.*

# ЕВАНГЕЛЛЕ, НАПІСАНАЕ ЖЫЦЦЁМ

*працяг са с. 1*

***Кс. Юрый Марціновіч***

Св. Лука, хутчэй за ўсё, паходзіў з Антыёхіі Сірыйскай. Ён нарадзіўся ў язычніцкай сям'і і быў па прафесіі ўрачом. Навярнуўся і прыняў хрост каля 40 года н.э. Неўзабаве ён стаў адным з самых блізкіх і руплівых супрацоўнікаў св. апостала Паўла. Як вучань суправаджаў яго ад другога апостальскага падарожжа і быў з ім да мучаніцкай смерці ў Рыме. Акрамя трэцяга Евангелля, Лука таксама напісаў кнігу Дзеяў Апосталаў, якая распавядае гісторыю ранняга Касцёла.

Вернікі і раней, і цяпер часта захапляюцца прыгожым тэкстам Евангелля св. Лукі, які вельмі ўнікальна і маляўніча апісаў жыццё і дзейнасць Езуса Хрыста. Менавіта дзякуючы св. Луку мы можам даведацца так шмат асаблівай любоўю адорвае бедных, хворых і адкінутых грамадствам.

Многія біблеісты лічаць, што Евангелле св. Лукі было напісана, між іншым, з думкай пра евангелізатараў – тых, хто з запалам хацеў бы несці радаснае пасланне аб збаўленні іншым людзям.

**Свята св. евангеліста Лукі адзначаем 18 кастрычніка.**

Гэтае Евангелле павінна было стаць своеасаблівым дапаможнікам для евангелізатараў, рыхтуючы хрысціян да справы евангелізацыі.

Св. Лука напісаў прыгожае Евангелле, якое мы чытаем па гэты дзень. Таму варта задаць сабе пытанне: ці маё жыццё з'яўляецца евангеллем, якім змогуць захапляцца іншыя, жадаючы, як я, жыць усёй сваёй істотай для Езуса?

Кожны з нас павінен

**Існуе сцверджэнне, што св. Лука таксама быў таленавітым жывапісцам. Некаторыя пералічваюць больш за сто карцін, аўтарам якіх ён можа быць. Да іх адносяць таксама Яснагорскі абраз.**

пра жыццё Найсвяцейшай Панны Марыі, дзяцінства Езуса, а таксама пазнаёміцца з мноствам прыпавесцей, якіх не падаюць іншыя евангелісты, напрыклад, з прыпавесцю пра страчаную драхму і блуднага сына, пра добрага самараніна, згубленую авечку або з прыпавесцю пра багача і Лазара.

Лука паставіў перад сабой мэту прадставіць сваім чытачам Бога як любячага Айца, поўнага міласэрнасці, які шукае сваіх згубленых сыноў і дачок ды запрашае да супольнасці з Сабой усіх, хто прагне блізкасці Бога ў сваім жыцці. Дантэ Аліг'еры назваў св. Луку, "песняром Хрыстовай ласкі". Сапраўды, Езус, якога ён паказаў, поўны дабрыні, пісаць нешта накшталт уласнага евангелля. Пісаць не пяром і чарніламі, а сваім жыццём і сэрцам. Наша жыццё павінна быць Добрай Навінай пра Езуса Хрыста. Таму што сёння людзі, калі глядзяць на хрысціян, спачатку чытаюць евангелле нашага ўласнага жыцця. Калі яно ім спадабаецца, часта толькі тады цягнуцца да Евангелля, напісанага некалькі стагоддзяў таму на пергаментах. Перш чым бліжнія пачуюць наш голас, перш чым будзем іх пераконваць у тым, што Бог існуе, перш чым раскажам пра ўваскрослага Езуса, няхай яны ўбачаць нашы добрыя справы.

Кожны чарговы дзень нашага жыцця – гэта новы




раздзел таго евангелля, якое мы павінны пісаць а ведучы да Бога. Просьма у св. Лукі, каб кожны дзень

**Варта ў дзень св. Лукі ўзгадаць заслугі і дабрадзействы медыцынскіх работнікаў, якія ахвотна спяшаюцца з ахвярнай дапамогай у любым месцы і ў любы час, асабліва ў перыяд пандэміі каранавіруса.**

сваімі ўчынкамі і любоўю да Бога і іншых людзей. Няхай яно захапляе іншых – не затрымліваючы іх на нас, дапамагаў нам пісаць і прапаведаваць евангелле ўласным жыццём!

# МІЛЬЁН ДЗЯЦЕЙ МОЛІЦЦА НА РУЖАНЦЫ!

працяг са с. 1

Анжэліна Марцішэўская

Хлопцы і дзяўчаты злучацца ў малітве ў адной супольнай інтэнцыі – будуць прасіць аб міры і еднасці ў свеце. Адказныя за акцыю асобы з кожнай дыяцэзіі арганізуюць групу дзяцей і іх бацькоў у галоўнай святыні дыяцэзіі. Гэтыя групы будуць бачыць і чуць адзін аднаго праз тэлемост, праводзячы загадзя падрыхтаваную сваю частку Ружанца. Таксама будзе ісці агульная анлайн-трансляцыя мерапрыемства з Мінска, з пляцоўкі ля Хрысціянскага Сацыяльнага Цэнтра. Анлайн-трансляцыя дасць магчымасць далучыцца да акцыі тым, хто плануе збірацца на малітву ў сваім мясцовым касцёле, а не ў цэнтральнай дыяцэзіяльнай святыні.

У нашай дыяцэзіі цэнтрам правядзення акцыі адпаведна будзе гродзенскі касцёл св. Францішка Ксаверыя, а адказны – вікарый парафіі кс. Яўген Амасёнак.

Са слоў святара, на момант напісання матэрыялу, дзяцей з Гродзенскай дыяцэзіі, ахвотных памаліцца Ружанцам разам з усім светам, налічылася амаль 2 000, што не з'яўляецца канчатковай лічбай. Усім хлопцам і дзяўчатам напярэдадні акцыі прапануецца паўдзельнічаць у майстар-класе па вырабе ружанцаў, а пасля – падорыць самастойна зрайстраваны ружанец дзіцяці побач. Ад арганізатараў акцыі кожны ўдзельнік атрымае марыйныя ружанцовыя налепкі.

*"Я бачу, што дзеці сапраўды разумеюць, што адбываецца ў свеце: што людзі пакутуюць ад пандэміі, што ёсць тыя, хто галадае, што ёсць войны і крызісы. І яшчэ яны разумеюць, што калі хтосьці пакрыўджаны, трэба прасіць у Бога аб дапамозе для гэтага чалавека. Таму, канешне, ім цікава атрымаць падарункі, але яны сапраўды аб'яднаны мэтай – разам прасіць аб супакоі і адзінстве"*, – упэўнены кс. Яўген.


Падчас леташняй акцыі Беларусь на міжнароднай арэне прадстаўляў толькі Мінск

Каб акцыя "Мільён дзяцей моліцца на ружанцы" сабрала неабходную, а то і большую колькасць дзяцей па ўсім свеце, далучайцеся да яе духоўна 18 кастрычніка а 18-ай гадзіне вечара беларускага часу або з дапамогай сродкаў анлайн-сувязі (падрабязнасці на інтэрнэт-старонцы samaranin.by). Усе неабходныя матэрыялы можна таксама знайсці на партале, прысвечаным міжнароднай акцыі "One Million Children Praying the Rosary".

***– Кс. Яўген, чым дзіцячая Ружанцовая малітва адрозніваецца ад малітвы дарослых?***

– Дзеці маюць чыстыя сэрцы, таму і малітва ў іх атрымліваецца вельмі шчырая і даверлівая. Яе галоўная асаблівасць у тым, што яна не спыняецца. Дарослым уласціва апускаць рукі, калі малітва не прыносіць пажаданы плён, дзеці ж будуць яе працягваць. Гэта мы бачым і на прыкладзе фацімскай гісторыі.

***– Ружанец – працяглая малітва, якая патрабуе вялікай канцэнтрацыі. Трэба ўмець засяроджвацца на словах самой малітвы, адначасова разважаць Таямніцы і пры гэтым памятаць пра інтэнцыю. Ці гатова малое ўспрыняць такую малітву? Ці ўвогуле правільна "грузіць" Ружанцам дзіця, а не пачаць, напрыклад, з падлеткавага, свядомейшага ўзросту?***

– Па-першае, праблема не ў тым, што Ружанец – гэта працяглая малітва, а ў тым, што ў нашым жыцці надта шмат мітусні і нам увогуле складана знайсці вольны час. У дзяцей няма столькі клопатаў, якія перашкаджалі б выдзеліць час на малітву. І няма столькі крыўд ды правін, што "ўсплываюць" акурат падчас Ружанца і часта замінаюць маліцца дарослым.

Па-другое, падчас малітвы дзецям неабвязкова выходзіць на ўзровень медытацыі над святымі таямніцамі. Як бацькам прыемна і важна, што іх малы проста што-небудзь гаворыць ім, нават нейкую лухту, так і Бог мае патрэбу, каб дзеці звярталіся да Яго, няхай і не да канца ўсведамляючы сэнс сказанага. Для Госпада лічыцца прысутнасць, хай нават дзіця азіраецца навокал падчас малітвы.

***– А што наконт патрэбы гэтай малітвы для саміх дзяцей? Сведчыць аб сваёй прысутнасці побач з Богам яны могуць і іншымі спосабамі: нават малітвай сваімі словамі ці добрым учынкам…***

– Ружанец змяшчае ў сабе ўсе галоўныя малітвы, таму вучыць аснове размовы з Богам і дысцыпліне.




**Упершыню малітоўнае чуванне дзяцей прайшло ў 2005 годзе ў сталіцы Венесуэлы Каракасе. Падчас Ружанцовай малітвы групы дзяцей у прыдарожнай каплічцы некалькі жанчын, якія былі разам з імі, адчулі глыбокую прысутнасць Панны Марыі. Адразу ж прыгадалася абяцанне а. Піо: "Калі мільён дзяцей разам памоліцца Ружанцам, свет зменіцца". З таго моманту ініцыятыва стала сусветнай, а за яе арганізацыю ўжо на працягу 15-ці гадоў адказвае Папскі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе". Штогод да акцыі далучаюцца новыя краіны. У мінулым годзе ініцыятыва сабрала рэкордную колькасць удзельнікаў, а лідэрамі па колькасці хлопцаў і дзяўчат сталі Польшча і Мексіка.**

Таксама Ружанец – гэта нібы скарочаная Біблія, у якую змешчаны галоўныя моманты нашага збаўлення. Усё Евангелле дзеці наўрад ці прачытаюць ці зразумеюць, а знаёмства з Ружанцовымі таямніцамі – гэта найбольш спрыяльны спосаб пазнаць Бога дзіцячым розумам, усвядоміць каштоўнасць хрысціянскіх ісцін.

Калі з дзяцінства прывучыць хлопцаў і дзяўчат рабіць паўзы для гэтай малітвы, то і пасля яны не будуць такія "забеганыя", заўсёды будуць мець час для сустрэчы з Богам, а адсюль – і з бліжнім, і з самім сабой.

І, канешне ж, Ружанец – гэта заклік да Марыі, на які Яна абавязкова адгукнецца і будзе весці па жыцці, вучыць любові, паслухмянасці, чысціні.

***– Як навучыць дзяцей маліцца Ружанцам і прывіць любоў да яго?***

– Карысна можа быць змайстраваць з дзіцём ружанец самастойна, дзесятак пацерак, каб насіць на руцэ. Гэта вельмі намацальны напамін пра сувязь з Богам, да таго ж будзе дапамагаць канцэнтравацца на малітве. Вельмі важную ролю мае візуалізацыя таямніц. Напрыклад, разважаеце Нараджэнне Хрыста – паказаць стайню і ўявіць, як там было холадна. Неабходна і пастаянства, як варыянт – адзін дзесятак Ружанца штодня.

Аднак галоўнае – прыклад у сям'і. Калі дзіця ўбачыць, як бацька, які з'яўляецца для яго самым моцным, разумным і аўтарытэтным, становіцца на калені перад Госпадам і чытае Ружанец, гэты вобраз захаваецца ў яго свядомасці на ўсё жыццё. І ў любых жыццёвых сітуацыях дзіця будзе наследаваць атрыманаму ўзору.

***– Якая галоўная мэта акцыі "Мільён дзяцей моліцца на ружанцы"?***

– Паспрыяць узрастанню згоды і еднасці ў сем'ях, у народзе і свеце, бо мы верым у моц дзіцячай малітвы. Засяродзіць увагу на актуальнасці Ружанцовай малітвы, каб яна не лічылася доляй старэйшага пакалення, якое часам высмейвае за "перабіранне пацерак". І нагадаць бацькам, што адказнасць за духоўную спадчыну ўскладзена на іх. Дзіця само не вырашыць, маліцца яму сёння ці не. Яно само не вырашыць, удзельнічаць у малітоўнай акцыі ці не. У гэтым вельмі важны ўдзел бацькоў.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Францішак падтрымаў глабальнае кіраванне сферай аховы здароўя

Свой каштоўны ўклад тут можа зрабіць Папская акадэмія жыцця, уключаная ў супрацоўніцтва з міжнароднымі арганізацыямі. Пантыфік заклікаў акадэмікаў удзельнічаць у ініцыятывах і грамадскай дыскусіі; распаўсюджваючы такім чынам "хрысціянскую антрапалагічную прапанову, натхнёную Аб'яўленнем". Гэта можа дапамагчы сучаснаму чалавеку адкрыць для сябе "першаснае права на жыццё ад зачацця да яго натуральнага завяршэння".

Святы Айцец высока ацаніў праведзенае Акадэміяй даследаванне на тэму ўплыву новых тэхналогій на жыццё чалавека. Ён заахвоціў працягваць працу па папулярызацыі г. зв. Рымскага этычнага закліку, які ўключыў у сябе маральныя правілы, звязаныя са сферай штучнага інтэлекту.

### Папа выказаў салідарнасць з ахвярамі вывяржэння вулкана

"Выказваю сваю блізкасць і салідарнасць з людзьмі, якія пацярпелі ад вывяржэння вулкана на востраве Ла-Пальма на Канарскіх астравах. Асабліва я думаю пра тых, хто быў вымушаны пакінуць свае дамы. Памолімся Багародзіцы, шанаванай на гэтым востраве як Маці Божая Снежная, за людзей, якія атрымалі настолькі цяжкі досвед, і за ратавальнікаў", – звярнуўся Папа.

Таксама Францішак прыгадаў беатыфікацыю Джавані Фарназіні – мучаніка Другой сусветнай вайны. Ён назваў новага благаслаўлёнага "руплівым у міласэрнасці пробашчам, які не пакінуў сваю паству ў трагічны перыяд, абараняў яе да праліцця сваёй крыві". "Няхай яго гераічнае сведчанне дапаможа нам смела ісці насустрач цяжкаму жыццёваму досведу", – адзначыў Папа.

### Адноўлены каталіцка-пяцідзесятніцкі дыялог

Адбылася анлайн-сустрэча з нагоды аднаўлення працы сёмага этапа Міжнароднага каталіцка-пяцідзесятніцкага дыялогу, тэма якога – "Lex orandi lex credendi".

Сустрэчу ўзначалілі з каталіцкага боку біскуп Джозэф Бамбэра з дыяцэзіі Скрэнтан у ЗША, а з пяцідзесятніцкага – пастар Сэсіл М. Робэк, выкладчык касцёльнай гісторыі і экуменізму ў Fuller Seminary ў ЗША, і пастар Дэвід Уэлс, мадэратар Камісіі па пытаннях адзінства хрысціян Сусветнай пяцідзесятніцкай канферэнцыі. Шаснаццаць удзельнікаў з пяці кантынентаў мелі магчымасць падзяліцца сваім досведам і поглядам на ход дыялогу. Наступная сустрэча запланавана ў Рыме летам 2022 года.

### Малітоўныя інтэнцыі на кастрычнік

**паўсюдная**

Молімся, каб кожны ахрышчаны быў уключаны ў евангелізацыю, гатовы да місіі сведчыць жыццём са смакам Евангелля.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан Бог благаславіў тых, хто падтрымлівае місійную справу Касцёла.

# У ГРОДЗЕНСКАЙ ВДС РАСПАЧАЎСЯ НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД


grodnensis.by

Падчас інаўгурацыі навучальнага года алюмны першага курса атрымалі залікоўкі

працяг са с. 1

**Ва ўрачыстай інаўгурацыі, якая ўжо ў 32-гі раз адбылася ў гродзенскай семінарыі, прынялі ўдзел Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп намінат Юзаф Станеўскі, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, выкладчыкі і выхаваўцы, духавенства, манаскія сёстры, свецкія супрацоўнікі семінарыі, бацькі і блізкія семінарыстаў.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

З дакладам на тэму "Новыя сродкі камунікацыі: небяспека ці магчымасці для новай евангелізацыі?" выступіў выкладчык пастаральнай тэалогіі і сродкаў сацыяльнай камунікацыі кс. доктар Юрый Жэгарын.

Цырымонія адкрыцця навучальнага года завяршылася ўручэннем заліковак алюмнам першага курса, якіх сёлета сямёра, а кульмінацыяй стала св. Імша ў касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі), цэлебрацыю якой узначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Ёзіч.

Нунцый заклікаў семінарыстаў быць адкрытымі для фармацыі, змагацца з усімі формамі ўнутранай няпраўды, быць здольнымі да сапраўднага сяброўства, клапаціцца пра духоўнае жыццё. Ён пажадаў, каб малітва стала для іх нагодай да асабістай сустрэчы з Богам.

Падчас Эўхарыстыі шасцёра семінарыстаў трэцяга курса атрымалі духоўны строй – сутану, што з'яўляецца чарговым крокам у семінарыйнай фармацыі і знакам прыналежнасці да Касцёла.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ІТАЛІЯ.** Каля 545 тысяч дзяцей і падлеткаў у Італіі наведваюць каталіцкія дзіцячыя сады і школы. Такая лічба была пададзена ў XXIII Дакладзе аб каталіцкіх школах у краіне. У параўнанні з 2020 годам, колькасць выхаванцаў касцёльных адукацыйных устаноў – а іх 7 859 – павялічылася на 2 675 чалавек (0,5%). У каталіцкіх дзіцячых садах і школах працуюць 54 387 педагогаў, што таксама больш, чым у 2020 годзе. Прычым амаль палова (25 434) – у дашкольных установах. Што тычыцца геаграфічнага размеркавання, амаль шэсць з дзесяці адукацыйных устаноў (59,7%) знаходзяцца на поўначы Італіі.

**АРМЕНІЯ.** Сінод біскупаў Армянскай Каталіцкай Царквы, скліканы Папам у Рыме на 22 і 23 верасня бягучага года, абраў новым Патрыярхам Кілікіі Армянскай арцыбіскупа Рафаэля Франсуа Мінасяна, які прыняў імя Рафаэль Бедрас XXI. Іерарх вучыўся ў Патрыяршай семінарыі ў Бхамары, Папскім грыгарыянскім універсітэце і Папскім салезіянскім універсітэце. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў у 1973 годзе. Да 1982 года быў настаяцелем армянскага катэдральнага сабора ў Бейруце, а з 1982 па 1984 гады – сакратаром Патрыярха Аванеса Бедраса XVIII. З 2004 года кіраваў армянскай рэдакцыяй тэлеканала "Telepace". У 2005 годзе быў прызначаны Патрыяршым экзархам Іерусаліма і Амана для католікаў армянскага абраду. У 2011 годзе стаў Ардынарыем для вернікаў армянскага абраду ва Усходняй Еўропе.

**ДАНІЯ.** Езуіты арганізавалі ў краіне пілігрымку рэліквій і абраза св. Ігнацыя Лаёлы. З пачатку верасня рэліквіі кожную нядзелю выстаўляюцца ў парафіі езуітаў у Орхусе на паўвостраве Ютландыя. 10 кастрычніка, пасля св. Імшы, перад перадачай рэліквій у Капенгаген, адбудзецца спецыяльнае набажэнства ў гонар заснавальніка ордэна езуітаў. Рэліквіі нагадваюць нам, католікам, што вялікія святыя, якіх мы жадаем пераймаць, былі жывымі людзьмі, і што мы сустрэнем іх у дзень уваскрасення мёртвых. Хоць у вядомым выказванні "Калі няма жывых святых, трэба пакланяцца рэліквіям" ёсць доля праўды, езуіты хацелі б, каб мошчы св. Ігнацыя Лаёлы натхнялі жывых на высакародныя ўчынкі.

**ПОЛЬШЧА.** Каля 170-ці студэнтаў з сямі акадэмічных душпастырстваў прынялі ўдзел у сёлетнім мерапрыемстве "Езуіцкія Татры", якое было арганізавана ў Закапанэ. З мэтай інтэграцыі, змешаныя групы студэнтаў прайшлі па 15-ці маршрутах у Татрах пад кіраўніцтвам а. Яцэка Драбіка SJ. Маладзёны ахвотна выконвалі розныя інтэграцыйныя задачы. Пакуль студэнты пераадольвалі маршруты, айцы езуіты падрыхтавалі месца для вогнішча і барбекю.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПРЫВАЛКА. ПАД АБАРОНАЙ АРХАНЁЛА МІХАЛА

*Андрэй Вашкевіч*

Каля старога рэчышча Нёмана ў некалькіх дзесятках кіламетраў на поўнач ад Гродна знаходзіцца вёска Прывалка. Мясцовыя жыхары традыцыйна выводзяць назву вёскі ад "правалена-га месца", паколькі побач знаходзіцца маляўнічая даліна Райгарад, дзе, згодна з легендай, некалі знаходзіўся вялікі горад, які праваліўся пад зямлю, паколькі мясцовыя жыхары вялі нехрысціянскае жыццё. Але адна з першых гістарычных згадак пра Прывалку адносіцца да 1609 года, калі кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт Ваза заснаваў у вёсцы асобную каталіцкую парафію, надзяліўшы яе шасцю валокамі зямлі.

Прывалка ў гэты час належала да ўласнасці вялікага князя, яе жыхары павінны былі забяспечваць каралеўскі шлях з Варшавы ў Вільню коньмі і харчаваннем. У Прывалцы знаходзіўся каралеўскі двор, да якога, таксама як і да парафіі, адносіліся галоўным чынам вёскі, якія цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Літвы.

Ужо ў самым канцы існавання Рэчы Паспалітай Прывалка атрымала прывілей на самакіраванне, які цяпер захоўваецца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. На гербе быў адлюстраваны архангел Міхал, які скідае ў пекла д'ябла. Магчыма, герб з'яўляецца нейкай адсылкай да гісторыі пра "праваленый" горад Райгарад.

У часы Расійскай імперыі касцёл у Прывалцы ўжо быў трэцяй драўлянай святыняй на гэтым месцы. Ксёндз, таксама як і парафіяне, жыў вельмі небагата, атрымліваючы даход яшчэ са старой каралеўскай фундацыі, а таксама невялікае грашовае ўтрыманне ад царскага ўраду. За ўдзел у паўстанні 1863 года многія жыхары Прывалкі былі высланы ў Сібір, а касцёл зачынены і перададзены праваслаўнаму прыходу ў Друскеніках. Святыня не выкарыстоўвалася і ў 1914 годзе згарэла.

Будаўніцтва сучаснага касцёла вялося ў 1918–1920 гадах. Святыня была асвечана ў ліпені 1920 года і ўжо больш за стагоддзе з'яўляецца самым важным і прыгожым будынкам Прывалкі. Да 1939 года намаганнямі парафіян і мясцовых пробашчаў святыня была забяспечана ўсім неабходным, але падзеі 1939 года зноў сталі выпрабаваннем для жыхароў Прынёмання. Апошні даваенны святар кс. Антоні быў арыштаваны немцамі і знік у лагерах, а пасля вайны, у 1962 годзе, парафію ліквідавалі савецкія ўлады. Рабіліся намаганні разбурыць касцёл, як гэта было зроблена ў суседнім Пераломе. У дадатак, на касцёл паваліласяа дрэва, якое прабіла дах.

У 1990 годзе святыня была нарэшце вернута парафіянам, якія на чале з кс. Станіславам Гаўлікам яе аднавілі. 29 кастрычніка 1994 года, у свята заступніка касцёла, яго зноў асвяцілі пад тытулам св. апостала Юды Тадэвуша. Кс. Станіслаў Гаўлік працаваў у Прывалцы да 1996 года. Дасюль у касцёле знаходзіцца мемарыяльная табліца ў памяць аб гэтым цудоўным чалавеку, святары, які ў канцы ХХ стагоддзя аднавіў або нанова пабудаваў у ваколіцах Гродна некалькі капліц і касцёлаў.


А. Вашкевіч

Знешні выгляд парафіяльнага касцёла ў Прывалцы

# КС. ВІТАЛЬ ЦЫБУЛЬСКІ: “ФЭСТЫ – ТРАМПЛІН ДА ДУХОЎНАГА ПАЛЁТУ”




**Кс. Віталь Цыбульскі – пробашч парафіі ва Уселюбе, душпастыр у мясцовым ЛПП. Мае 18 гадоў святарства. Галоўны арганізатар “Novafest”.**

*працяг са с. 1*

**Арцём Ткачук**

***– Кс. Віталь, у 2019 годзе Вы ўпершыню арганізавалі Казіміраўскі фэст ва Уселюбе. Праходзіць два гады – і ладзіце новае мерапрыемства – “Novafest”. Чаму змянілася назва і, як разумею, ідэя фэсту?***

– Усё пачалося з таго, што калі я прыехаў у гэтую парафію і пачаў знаёміцца з людзьмі, з мясцовымі ўладамі, то сустрэўся з сітуацыяй, калі мне наўпрост сказалі, што каталікі служаць вось тут, а праваслаўныя – тут. Гэта мяне ўзрушыла: чаму ёсць нейкі падзел?

Я шукаў падыход да людзей, хацеў паказаць, што мы можам рабіць штосьці ўсе разам. Пачаў з дапамогі мясцовым патрабуючым. Мы арганізоўвалі г. зв. “кошык дабрыні” – збіралі прадукты і развозілі іх, напрыклад, шматдзетным сем’ям перад Божым Нараджэннем. Агулам сабралі тады каля 300 кг. Пазней наладзілася супраца са школай, домам-інтэрнатам.

З гэтага ўсяго нарадзіўся Казіміраўскі фэст. Хацелася сабраць усіх мясцовых жыхароў разам. Праз гісторыю святыні *(касцёл ва Уселюбе з’яўляецца адным з найстарэйшых у Беларусі – заўв. аўт.)* мы імкнуліся паказаць багацце нашай зямлі, што тут жылі розныя людзі: каталікі, праваслаўныя, пратэстанты, якія адзін аднаму дапамагалі. Я звярнуўся ў сельсавет, да раённых улад, і мы разам гэтае мерапрыемства зладзілі.







*Важным момантам праграмы фэсту сталі сведчанні людзей аб іх навяртанні да Бога*

Спадзяваліся, што першы фэст будзе невялічкі – на чалавек 100. Сабралася ж каля 400 асоб, атрымалася вялікая падзея. Аднак адразу прапанаваць духоўнае вельмі цяжка. Чалавека трэба адкрываць паступова: праз любоў да гісторыі, песень, танцаў. Асоба пачынае давяраць, і тады ўжо можна прапанаваць духоўнае. Таму ўжо ў гэтым годзе Казіміраўскага фэсту не было, а з’явіўся “Novafest”.

Па шчырасці, пра сёлетні фэст мы не думалі і не разважалі. Гэта чысты плён рэкалекцый, якія распачаліся ва Уселюбе год таму. Я веру, што Святы Дух падштурхнуў нас да духоўнага ўзбагачэння гэтага месца.

***– Я правільна разумею, што Казіміраўскі фэст быў спробай выйсці па-за касцёл і зацікавіць мясцовых людзей…***

– Так. Нават, хутчэй, аб’яднаць іх.

***– А “Novafest” стаў лагічным працягам – духоўнай прапановай мясцовым жыхарам?***

– Так. І людзі прыходзілі, давалі сведчанні. Гэта ўжо асобная тэма.

***– А ці было такое, што людзі ішлі на “Novafest”, а насамрэч думалі, што ідуць на Казіміраўскі?***

– Яны пыталіся, ці будзе так, як мінулым разам. Хоць “Novafest” быў у большай ступені закрытым, некаторыя мясцовыя прыходзілі з цікавасці. Увогуле я добра памятаю, як гэтыя людзі выглядалі два гады таму. І бачу, як выглядаюць цяпер: не баяцца прыйсці, загаварыць. Раней я ў іх вачах быў нейкім дзіваком, які прыехаў, захацеў нешта рабіць, а гэта нікому не патрэбна. Сёння тыя, хто некалі казаў “ваша месца там, а наша – тут”, здзіўляюцца, чаму некаторыя іх суседзі працягваюць так лічыць і не прыходзяць.

***– То-бок, фэст быў спосабам змены стэрэатыпу, што ксёндз і вера выходзяць па-за касцёл?***

– Так, яны крыху інакш убачылі святара, які можа з імі працаваць, можа мець нейкія ідэі, прыдумваць штосьці нестандартнае. Увогуле ўсё, што тут робіцца для іх, выклікае вялікае здзіўленне: мы стварылі кавярню, галерэю, краму, музей. Але ўсе ўжо паступова прызвычайваюцца.

Самае галоўнае – адкрыць людзей на асабістае сведчанне прысутнасці Бога ў жыцці. Каб яны ведалі Усемагутнага не толькі ў касцёле ці царкве, але і, напрыклад, п’ючы зёлкавую каву з кс. Віталем ці з людзьмі, якія працуюць тут у камандзе. Каб убачылі жывога Бога сярод іх.

***– А Вы адчуваеце абнаўленне парафіі за гэтыя гады? Пачало, напрыклад, болей людзей прыходзіць у касцёл?..***

– Я не гляджу катэгорыямі “прыходзіць”. Я гляджу, што мы сталі парафіяй, у якую прыязджае шмат людзей па розных прычынах. Напрыклад, яны хочуць паглядзець касцёл, а мы дзелімся з імі сведчаннем жыцця з Богам. Трэба накарміць гэтых людзей, даць ім месца для сну – гэта такое наша простае служэнне.

Хоць ва Уселюбе парафія і старэнькая, маладых вельмі мала, але людзі перажываюць метаною, нейкую перамену мыслення. Нягледзячы на тое, што ім часам складана, шматлікія рэчы ў сэрцах і галовах людзей ламаюцца. Бо Бог заўсёды новы!

Культура каталіцкіх фэстаў у Беларусі развіваецца. У апошнія гады іх становіцца ўсё больш, і, каб не каранавірус, дынаміка была б больш адчувальнай. Сёлета адбыліся першыя фэсты ў Удзеле, Мінску, Бялынічах, Шаркаўшчыне. Я спадзяюся, што Касцёл нарэшце абуджаецца. Увогуле, у нашай краіне пачынаецца рух адраджэння. Асабліва я бачу праменні абуджэння ў святарскім коле: святары пачынаюць разумець, што іх місія не можа ляжаць у шафе, як такое прыгожае адзенне. Яна павінна жыць! Але паглядзім, бо гэта не стометроўка, гэта марафон да канца жыцця.

Дзесяцігоддзямі парафіяльныя фэсты абмяжоўваліся св. Імшой, працэсіяй, супольным абедам мясцовых святароў. Сучасныя ж ідуць насустрач парафіянам. Усё гэта было добра, і варта яго падтрымліваць. Аднак мы не ведаем, у які момант Бог дакранецца да чалавека. Можа падчас св. Імшы, адарацыі ці працэсіі. А можа і падчас фэсту. Бог мае шмат граняў. У святах і фэстах таксама ёсць свой шлях.

Бог дзейнічае праз наша захапленне і цягу да чагосьці. Асабіста я люблю прымаць людзей, размаўляць з імі, знаёміцца. Калісьці для мяне гэта было цяжка, а цяпер наадварот. Калі хтосьці прыязджае, у нашай камандзе так прынята, што ўсе адразу кідаюць свае справы і ідуць да чалавека. Гэта спосаб сведчання.

Трэба нам – святарам і парафіянам – выходзіць з сядзення і захавання традыцый. Трэба, каб біла сэрца і быў прыток крыві. Свежай і новай. Не можа быць, як раней. Гэта таксама мае сваё месца. Я так адчуваю.

***– Разам з фэстамі ўзнікаюць цэлыя каманды. Святару яны неабходны для арганізацыі. Гэтыя каманды, у сваю чаргу, рухаюцца ў бок стварэння супольнасці. Атрымліваецца, што разам з развіццём фэстаў развіваюцца таксама супольнасці. Гэта так?***

– Так, гэта вельмі цікавы момант. Разам з арганізацыяй фэстаў ты бачыш рэальную карціну нашага Касцёла – ёсць нішы, якія патрабуюць шмат працы. Напрыклад, валанцёрскі рух. Людзі хочуць служыць і музычна, і малітоўна, і проста як валанцёры. Таму варта займацца гэтым.

Таксама трэба памятаць, што ўсё робіць Бог. А нам трэба з Ім супрацоўнічаць. Ён пасылае адпаведных людзей для адпаведных заданняў. Я асабіста магу засведчыць, як у пачатку арганізацыі “Novafest” нас было ўсяго некалькі асоб, а за колькі тыдняў мелі ўжо вялікую каманду.

Праз фэст некаторыя шукаюць сабе мужа ці жонку, хочуць стварыць сем’і. Вядома, заўсёды хочацца сабраць людзей і штосьці ім паказаць. Але мэтай нашага фэсту было перажыванне духоўнай сустрэчы з Хрыстом у супольнасці. Як першыя апосталы. Вось так я ўяўляю сабе Касцёл. Больш таго, у нас збіраюцца людзі з розных Касцёлаў – каталікі і пратэстанты. Ніхто не кажа, што ён той ці іншы, а кожны кажа: “Я люблю Хрыста”. Пры гэтым усе з павагай ставяцца да Каталіцкага Касцёла, да сакрамантаў.

Таксама на сваёй тэрыторыі мы праводзім хрысціянскія вяселлі. Весела і без алкаголю. Да нас прыязджаюць пратэстанты і кажуць, што хочуць у гэтым месцы адзначыць дзень нараджэння, вяселле ці штосьці іншае. Бо тут ёсць Дух Божы, ёсць малітва. У гэтым адкрываеш вялікую шматграннасць.

***– Існуюць розныя фэсты: з ухілам на духоўнасць, культуру, нейкія традыцыі і г. д. Як Вы ставіцеся да меней духоўных мерапрыемстваў, арганізаваных вакол парафіі? Для прыкладу, да вядомай нямецкай традыцыі выпіць піва з пробашчам пасля нядзельнай св. Імшы?***

– Першае – якая мэта, для чаго я штосьці хачу рабіць? Адказаць на гэта дапамагае малітва. Па сабе магу сказаць, што часта раблю штосьці і адчуваю, што не кладзецца на сэрца. Яшчэ малюся, але нічога не змяняецца. Тады пакідаю такую ініцыятыву. Гэта не тое, чаго хоча Бог, я не адчуваю супакою.

Другое – вынік, якога хочаш дасягнуць. Напрыклад, Казіміраўскі фэст быў трамплінам да духоўнага палёту, які будзе працягвацца ўжо падчас “Novafest”. Таму такія мерапрыемствы маюць сэнс. Можна сабраць людзей, каб проста пасядзець, пасвяткаваць, але павінен быць працяг і кармленне духоўнай ежай. Каб гэта прыводзіла да аднаго – да сустрэчы з Хрыстом. Інтымных адносін з Ім.

***– На будучыню плануеце, што ў парафіі будзе адначасова два фэсты – культурны Казіміраўскі і духоўны “Novafest”?***

– Можа быць. Канешне, я адчуваю сябе як рыба ў вадзе ў “Novafest”. Аднак Казіміраўскі таксама мае месца быць, бо ён адкрывае сэрцы людзей на духоўны свет. Трэба падыходзіць далікатна, каб таксама не замяніць духоўны свет мастацтвам. Для прыкладу, падчас Казіміраўскага фэсту мы хацелі, каб таксама гучалі хрысціянскія спевы. У пэўны момант, калі гурт заспяваў песню пра Езуса, адна жанчына пачала казаць: “Фу, чаму яны спяваюць пра Езуса?”. Цікавая рэакцыя проста на імя Езус. Таму хацелася б, каб момант веры падчас фэсту таксама прысутнічаў.

працяг са с. 1

С. Вераніка Огар FMA

# ГРУЗІЯ НАВУЧЫЛА МЯНЕ НЕ БАЯЦЦА ПРАЗМЕРНАСЦІ Ў ЛЮБОВІ

Я паходжу з Лідчыны, з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў вёсцы Бердаўка. Належу да Кангрэгацыі Дачок Марыі Успамогі Хрысціян, больш распаўсюджаная і вядомая назва якой – супольнасць сясцёр салезіянак. Фармацыю праходзіла ў Італіі. Пасля складання першых манаскіх абяцанняў працавала на салезіянскіх пляцоўках у Бараўлянах і Смаргоні, а цяпер амаль ужо на працягу 4-ох гадоў служу ў Грузіі. Наша супольнасць размяшчаецца ў сталіцы краіны – Тбілісі. Тут маем невялікі выхаваўчы цэнтр для дзяцей дашкольнага ўзросту. Гэтая пляцоўка – вялікая дапамога для грузінскіх сем'яў, многія з якіх пакутуюць ад беднасці. Пакуль мы апекуемся дзецьмі і праводзім з імі заняткі, іх маці выходзяць на працу, каб зарабіць грошай на ўтрыманне сям'і. Дарэчы, менавіта ў гэтым цэнтры я на працягу першага году вучылася размаўляць. Маем таксама араторый, служым пры парафіях і ўвогуле не адкідваем ніводнай магчымасці папклапаціцца пра моладзь. Напрыклад, два гады таму ахвотна прынялі прапанову мясцовага біскупа – і цяпер я адказваю за моладзевы цэнтр.



Каталіцызм у Грузіі вызнаюць менш за 2 % насельніцтва. Асноўная рэлігія там – праваслаўе

Часцей за ўсё, калі мяне просяць падзяліцца сведчаннем, то хочуць пачуць сведчанне місіянеркі. Аднак адна мясцовая манахіня адзначыла: "Прыязджаючы сюды, вы лічыце сябе місіянерамі, але Грузія – хрысціянская краіна з яшчэ больш доўгай і багатай гісторыяй веры, чым тыя краіны, з якіх вы прыбываеце". І гэта праўда. Таму калі разглядаць слова "місіянер" у яго прамым значэнні, як "той, хто нясе Хрыста туды, дзе Яго не ведаюць", то наўрад ці я магу быць сведкай.

Разам з тым, пасля ІІ Ватыканскага сабору місійнае заданне Касцёла стала разглядацца шырэй, таму цяпер кожны хрысціянін мае місію быць сведкам Хрыста, г. зн. несці Добрую Навіну ў тое асяроддзе, дзе жыве. І вось з гэтай перспектывы я магу назваць сябе місіянеркай.

Я вельмі ўдзячна Богу і маёй Кангрэгацыі за шанс служыць у Грузіі. Таму што магу не толькі падзяліцца вопытам, які атрымала ў беларускім Касцёле або падчас фармацыі ў Італіі, але і сама ўзбагаціцца новым досведам.

Служэнне ў моладзевым цэнтры дае магчымасць сустрэчы з моладдзю з розных куткоў краіны, пазнаць бліжэй іх лад жыцця, каштоўнасці і клопаты. Цікава, што ў ім пратаганістамі з'яўляюцца самі хлопцы і дзяўчаты. Наш касцяк складаецца з трох чалавек: малады хлопец, я і святар, прызначаны духоўным айцом моладзі.

Наша задача – разам з маладзёнамі садзейнічаць арганізацыі розных івэнтаў, якія будуць спрыяць іх аб'яднанню і духоўнаму ўзрастанню. Напрыклад, сёлета мы праводзілі "Школу лідэраў" з мэтай падрыхтоўкі аніматараў, якія будуць у сваіх парафіях дапамагаць святарам у моладзевай душпастырскай дзейнасці. Ладзілі рэкалекцыі для хлопцаў і дзяўчат; школу аніматараў, дзе аніматары рыхтаваліся да служэння ў дзіцячых лагерах; вакацыі з Богам для дзяцей; спартыўны турнір між парафіямі; валанцёрскі лагер, у якім прыводзілі ў годны стан руіны старога касцёла; пілігрымку; адпачынак для моладзі.

Мяркую, кожны, хто пабываў у Грузіі, быў уражаны мясцовай гасціннасцю. Асабліва нас, беларусаў, якія звычайна адрозніваюцца памяркоўнасцю і разважлівасцю, уражвае грузінская празмернасць. Калі яны цябе частуюць, гатовыя аддаць усё, гатовыя аддаць апошняе, і не важна, што яны цябе амаль не ведаюць і нічога ад цябе не атрымаюць узамен. Гэта сапраўднае шчасце – дзяліцца з іншым, аддаваць штосьці, у чым сам маеш патрэбу. Іншымі словамі, гэта мастацтва дзяліцца сабою. І гэта той вопыт, які я штодзённа тут атрымліваю.

Калі гляджу на крыж, то бачу, што Хрыстос таксама любіў празмерна. Бо Ён не разважаў, колькі пакут здольны знесці. Не думаў, дзе мяжа болю. Не выбіраў, за каго памерці, а за каго – не. Ён проста аддаў усё да канца.

І пазнаючы грузінскі менталітэт, у чарговы раз пазнаючы Хрыста ўжо ў грузінскім Касцёле, я таксама вучуся не баяцца празмернасці. Стараюся не праграміраваць, што будзе далей. Калі штосьці раблю, не шкадую нічога. Калі малюся, малюся ўсёй сабою. Калі нешта аддаю, стараюся аддаваць усё, што маю. Калі прабачаю, не чакаю, што іншы зменіцца.

"Потым" можа і не быць. "Зараз" – час, каб жыць. "Зараз" – час, каб любіць і рабіць гэта празмерна.

# ЮБІЛЕЙ 30-ГОДДЗЯ ДЗЕЙНАСЦІ СЯСЦЁР САЛЕЗІЯНАК У БЕЛАРУСІ



sdb.by

Сёстры салезіянкі аднаўляюць манаскія абяцанні

Працяг з папярэдняга нумара

С. Вераніка Блізнюк FMA

### *Кс. Павел Шчарбіцкі, Мінск і Смаргонь*

*У 1997 годзе ў Серабранку ў Мінску прыйшлі ксяндзы салезіяне, а пасля з'явіліся і сёстры салезіянкі. Першае ўражанне ад сустрэчы – здзіўленне. Бо яны ўсміхаліся. Для мяне першапачаткова ксёндз ці сястра былі ўвогуле людзьмі "не з гэтага свету", далёкімі, якіх я не разумеў і якія, як мне здавалася, не разумелі мяне. Я іх нават трохі баяўся. А тут раптам усё змянілася: чалавек усміхаецца, цікавіцца табой, асабіста табе падае руку – зусім іншы падыход. Гэта вельмі моцна кранала.*

*Сёстры заўсёды былі з моладдзю. Мы часта сустракаліся ў іх дома, там у капліцы маліліся, праводзілі на розныя малітоўныя спатканні, чуванні. Новы год святкавалі разам. Гэта было штосьці новае. Сёстры займаліся духоўным выхаваннем моладзі і асабіста маім.*

*Найбольш маё жыццё было звязана з с. Уладзіславай Цесляй. Аднойчы пачуў ад яе: "Ты эгаіст! Ты робіш усё толькі для сябе". Цяжка было прыняць пачутае, але сястра ўмела гаварыць праўду ў вочы. Яна сказала: "Хочаш быць ксяндзом? Не будзе такога!". Адмаўляла мяне? Напэўна, не. Праз гэтыя словы яна правакавала да асабістай працы над самім сабой. І гэта прынесла плён!*

*Падсумоўваючы, падкрэслю некалькі галоўных аспектаў у адносінах з сёстрамі салезіянкамі: радасць і зацікаўленасць мною, духоўны аспект (тое, што мы маглі быць у сясцёр дома і маліцца з імі), а таксама праўдзівасць і пастаянства. Праз гэта салезіянкі выхоўвалі нас і суправаджалі. Я вельмі ўдзячны ім за тое, кім я ёсць сёння.*

### *Віталій і Марыя Арцёменка, Смаргонь*

*Наша першая сустрэча з сёстрамі салезіянкамі адбылася ў Смаргоні 30 гадоў таму. Сёстры адрозніваліся радасцю ў вачах, пастаянный усмешкай на твары, адкрытасцю для зносін, сваёй харызмай і... вопраткай шэрага колеру, бо ў галаве існаваў вобраз строгай манахіні ў чорным.*

*Тады адкрылася новая старонка ў нашым жыцці: урокі рэлігіі, спеў песень у касцёле пад гітару, чаяванні ў сясцёр дома, тэатральныя пастаноўкі, паходы на прыроду з моладдзю, арганізацыя першай пілігрымкі СМЭП, вечары ў араторыі.*

*Ішлі гады. Адны сёстры з'язджалі, іншыя прыязджалі, але кожная з іх пакінула свой след у нашых сэрцах. Мы даўно ўжо выраслі, але памятаем кожную з іх і вельмі радуемся, калі сустракаемся зноў. Цяпер ужо нашы дзеці ходзяць на вядомыя і звыклыя ўсім урокі рэлігіі, спяваюць песні пад гітару, прыходзяць у араторый, бегаюць у госці да сясцёр на гарбату з найсмачнейшымі цукеркамі.*

### *Ганна Андык, Бабруйск*

*Дочкі Марыі Успамогі Хрысціян пачалі сваю дзейнасць у Бабруйску ў 1998 годзе, калі мне было 16 гадоў. Тады я толькі шукала свой шлях да Бога. Гэтыя на выгляд нічым не прыкметныя жанчыны ў шэрым адзенні змянілі маё жыццё.*

*Памятаю свае першыя ўражанні: шчырая ўсмешка на тварах і непадробленая зацікаўленасць кожным чалавекам, незалежна ад узросту і статусу. Мне здавалася неверагоднай, чароўнай тая цеплыня, лёгкасць, жаноцкасць, што іскрылася ў вачах, зыходзіла з кожнага слова і ўчынку.*

*На жаль, мае бацькі былі супраць майго жадання хадзіць у касцёл. Але дзякуючы ўсеабдымнай падтрымцы сясцёр, якія клапаціліся аб маім рэлігійным выхаванні, апекаваліся псіхалагічна і духоўна, здарыўся сапраўдны цуд: я атрымала ад бацькоў дазвол прыступіць да Першай св. Камуніі. Гэтая падзея перагарнула новую старонку майго існавання, і не толькі майго.*

*Мяне проста шакіравала здольнасць сясцёр за такі непрацяглы час з'яднаць паміж сабой столькі людзей! Я ніколі раней не бачыла столькі моладзі, дзетак, дарослых, якія прыходзілі на Імшу, сустрэчы ў араторыі, катэхезы, святы. На летніх канікулах пад дах касцёла сёстры збіралі проста рэкордную для Бабруйска колькасць дзяцей і падлеткаў.*

*Упершыню ў жыцці я адчувала, што знайшла не толькі Бога, але і сям'ю, якая прымае мяне такой, якая я ёсць. Зараз, узгадваючы той перыяд свайго жыцця, я называю яго "залатым часам". Ён атрымаўся такім толькі дзякуючы любові трох адважных жаночых сэрцаў: с. Ганны Кужджал, с. Ірыны Барцэвіч і с. Алы Валюкевіч. Яны сталі для многіх з нас сапраўдным прыкладам веры і сілы духу!*

*Праца з моладдзю не абмяжоўвалася толькі катэхезамі і сустрэчамі ў араторыі. Пад кіраўніцтвам с. Алы Валюкевіч у нас з'явілася суполка, якая пачала спяваць на Імшы. Але ў хуткім часе янаператварылася ў музычны гурт "Magnificat". Адначасова сёстры прапанавалі нам запісаць свой першы альбом. Для мяне гэта стала самым велічным жэстам даверу і прыняцця мяне як асобы. Тады я ўпершыню паверыла ў сябе, таму што сёстры паверылі ў мяне.*

*За 3 гады ў нас з'явіліся 3 музычныя альбомы. З канцэртамі мы выступалі ў Польшчы, Расіі, Італіі. Кожнае падарожжа было падарункам ад Бога, Яго дзейнасцю ў нашым жыцці. Але "Magnificat" – гэта не толькі запісаныя альбомы і не проста моладзевы гурт. Гэта наша "так", якое адказалі Богу, гэта пакліканне, служэнне, малітва. Разам з сёстрамі мы выплылі на глыбіню нашай веры, не баяліся жыць з Богам і па-сапраўднаму "кайфавалі" ад таго, што рабілі.*

*Дарагія, любімыя нашы сёстры! Ад імя ўсіх, хто для вас назаўсёды застанецца бабруйскай моладдзю і гуртом "Magnificat", дзякую вам за цуд веры, надзеі і любові, які вы стварылі для нас. Няхай эпілогам стануць словы св. Яна Боска: "Усё знікае, акрамя нашай удзячнасці. Давайце памолімся, как Бог шчодра блаславіў тых, хто быў такі добры да нас".*

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Ці трэба пры смерці блізкага чалавека ў доме завешваць люстэркі тканінай?

grodnensis.by

*Завешванне люстэрак, калі памірае нехта з блізкіх, бярэ свой пачатак у язычніцтве і забабонах. Нічога агульнага з хрысціянскай верай гэта не мае.*

*Існуе некалькі версій падобных прымхаў. Часцей за ўсё людзі вераць, што душа яшчэ блукае па зямлі некаторы час і можа зазірнуць у люстэрка ды пажадаць застацца. Ёсць яшчэ версія, што люстэрка быццам падвойвае прадметы, а таму можа падвоіць смяротнасць у доме. Існуе таксама забабон, што люстэрка адкрывае партал у іншы свет. Гэтыя прымхі вельмі часта маюць карані ў фільмах, літаратуры пра магію, чараўніцтва, акультныя рытуалы і абрады. І часта ў людзей з'яўляецца страх, таму яны завешваюць люстэркі.*

*Адказ на гэтую сітуацыю ляжыць у першай запаведзі, а дакладней – у яе незахаванні. Калі чалавек мае з Панам Богам жывыя і сапраўдныя адносіны, г. зн. моліцца, жыве ў сакрамантах Касцёла і яго вучэнні, то ён разумее і ведае, што Бог з'яўляецца гаспадаром жыцця і смерці. А ўсе забабоны ўзнікаюць таму, што чалавек не верыць і не давярае Пану, а праз свае страхі шукае знакаў, падтрымкі, адказаў у чымсьці або кімсьці.*

*Самае важнае, чым павінны займацца родныя памерлага, – малітва. У гэтым больш за ўсё мае патрэбу душа памерлага. А ўсе рытуалы і абрады, заснаваныя на страху, сумненнях, нявер'і і бязбожнасці, лепш прыбраць са свайго жыцця.*

# ПЫТАННІ ПРА РУЖАНЕЦ

Кацярына Паўлоўская

**Якія асацыяцыі ў нас узнікаюць, калі чуем слова "Ружанец"? Ці ахвотна молімся Ружанцам? Ці застаёмся на адарацыю ў кастрычніку? Як "раскусіць" Ружанец – малітву, якой прысвечаны цэлы месяц літургічнага года?**

Хуткі рытм штодзённасці не з'яўляецца чымсьці дрэнным (пакуль не каштуе нам занадта шмат). Рух – гэта жыццё ў любой сферы. Між тым ён часам з'яўляецца вынікам празмернай трывожнасці, як і празмернае выкарыстанне гаджэтаў, і празмерная ўвага да сацыяльных сетак. На апошнія два пункты таксама можа ўплываць патрэба бесперапынных эмацыянальных стымулаў.

Гэты кантэкст нашай паўсядзённасці можа часткова растлумачыць, чаму нам цяжка на працягу некалькіх або некалькіх дзесяткаў хвілін засяродзіцца на паўтарэнні аднолькавых слоў Ружанцовай малітвы. Карацей кажучы, Ружанец для нас нудны. Такое ўспрыняцце ўплывае на жаданне ўзяцца за Ружанцовую малітву.

Другі важны фактар – успрыняцце Бога. У залежнасці ад таго, звяртаемся мы да блізкага, любімага чалавека ці да незнаёмца, ужываем розныя словы і інтанацыі. Так адбываецца і з Ружанцам – наш вобраз Бога ўплывае на тое, як молімся. "Шматразова паўтараемыя словы малітвы «Вітай, Марыя» падобныя на прызнанне ў каханні, якое ніколі не надакучыць людзям, закаханым адзін у аднаго", – такую думку з Апостальскага ліста Яна Паўла ІІ "Rosarium Virginis Mariae" прыводзіць а. Раман Шульц OP, дамініканец, які сёлета ў пяты раз кіруе арганізацыяй Ружанцовага кангрэсу ў Магілёве.

На пытанне, на чым засяроджвацца падчас Ружанца – на разважанні таямніц ці на паўтарэнні слоў малітвы, – айцец адказвае, што асновай з'яўляецца ўсведамленне таго, што "я стаю перад Жывым Богам". Вера ў тое, што з другога боку і адначасова побач з намі знаходзіцца Бог, які бачыць, як мы звяртаемся да Яго, і з'яўляецца Апекуном нашага жыцця, надае сэнс і нябачны змест нашай малітве.

З такім допушчэннем маліцца значна лягчэй. Тым не менш могуць узнікнуць пытанні накont "тэхнічнага" боку Ружанца. Адным з іх можа быць згаданы аспект засяроджання: як сканцэнтравацца на разважаннях, калі паўтарэнне наводзіць на іншыя думкі? А. Раман адказвае так: "У чалавека ёсць цела, пачуцці, воля, розум і душа. [...] Ужо сам факт трымання ружанца ў руках з'яўляецца ўдзелам нашых рук у праслаўленні Бога. [...] Можна задзейнічаць свае пачуцці і цела, засяродзіўшы ўвагу, перш за ўсё, на старанным вымаўленні слоў малітваў «Ойча наш» і «Вітай, Марыя», не ўдаючыся ў біблейскі змест таямніц. Прыкладам гэтага можа быць малітва маленькіх дзяцей, якія з вялікім даверам, хоць і не разумеючы глыбіні прамаўляемых слоў, стаяць на каленях перад Богам".

З іншага боку, разважанне над таямніцамі адлюстроўвае ўдзел розуму ў Ружанцовай малітве. Тлумачачы гэта, дамініканец звяртаецца да пытання адпустаў (індульгенцый) у дакументах Касцёла: "[...] можна атрымаць поўны адпуст пры звычайных умовах за адгаворванне пяці таямніц Ружанца, найлепш у супольнасці. Аднак паказальна, што ўмовай з'яўляецца не толькі чытанне малітваў, але і тое, што гэтая малітва павінна суправаджацца разважаннем над таямніцамі. Над гэтай заўвагай варта задумацца".

А. Раман таксама згадвае важнасць знаходжання на малітве "ў стане ласкі, г. зн. з чыстым сэрцам". Варта дадаць, што здзейсненыя грахі не змяняюць любові Бога да нас, і Ён рады нашай малітве. Справа ў тым, што без цяжкага граху нашаму сэрцу лягчэй пачуць натхненне Святога Духа, як і нашаму целу лягчэй рухацца без цяжкага заплечніка на плячах.

У кантэксце разважанняў над таямніцамі Ружанца і пераадолення рассеянасці айцец заахвочвае практыкаваць на працягу пэўнага часу малітву з "дапаўненнямі". "Напрыклад, падчас малітвы таямніцай «Уваскрасенне Пана Езуса» пасля слова «Езус» у кожным «Вітай, Марыя» дадаём коратка: 1) Езус, які сказаў апосталам: «Супакой вам»; 2) Езус, які далучыўся да вучняў, што ішлі ў Эмаус, і растлумачыў ім Святое Пісанне; 3) Езус, які сказаў Тамашу: «Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, але паверыў» і да т. п. Я прывёў тут прыклад трох дапаўненняў да паўторанага тройчы «Вітай, Марыя». Застаецца зрабіць яшчэ сем падобных дапаўненняў". Такі Ружанец з дапаўненнямі можна знайсці ў кніжцы, выдадзенай падчас першага Ружанцовага кангрэсу ў Магілёве ў 2017 годзе.

А што наконт часу, прысвечанага на Ружанец: 15 хвілін ці паўгадзіны? Адказваючы на гэтае пытанне, а. Раман прыводзіць прыклад людзей, якія рашаюцца на ўдзел у Духоўным усынаўленні і цягам 9-ці месяцаў кожны дзень моляцца адной таямніцай Ружанца або якія, выконваючы наказ Маці Фацімскай, кожны дзень моляцца цэлым Ружанцам. Дамініканец таксама ўзгадвае св. айца Піо і яго штодзённае адгаворванне 30-40 частак Ружанца ("нешта неверагоднае!"). І дзеліцца сваім вопытам: "Мой «рэкорд» – 10 частак Ружанца на працягу дня, падчас пешага паломніцтва ў Іспаніі да санктуарыя св. Якуба. Таму «слухайма, што Дух кажа Касцёлу»".

Айцец таксама раіць прасіць дапамогі Святога Духа ў сітуацыях, калі цяжка ўзяцца за Ружанец. Заклікае спытаць парады ў таго, хто любіць маліцца гэтай малітвай. "Я сам буду рады пагаварыць (па тэлефоне або ў любой іншай форме) з кожным, хто гэтага захоча". Яшчэ адзін спосаб – прачытаць кнігу аб Ружанцовай малітве. А. Раман асабліва рэкамендуе "выдатны апостальскі ліст папы Яна Паўла ІІ пра Ружанец".

Перадаём сардэчнае прывітанне і бласлаўленне а. Рамана Шульца OP на кастрычнік усім аматарам Ружанцовай малітвы.



На фота буцінанка Надзеі Букі

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*10 кастрычніка – XXVIII Звычайная нядзеля*
*Мк 10, 17–27*

Калі Езус вырушыў у дарогу, падбег да Яго адзін чалавек, упаў перад Ім на калені і спытаўся ў Яго: "Настаўнік добры, што мне зрабіць, каб атрымаць у спадчыну жыццё вечнае?". Езус сказаў яму: "Чаму называеш Мяне добрым? Ніхто не ёсць добрым, толькі адзін Бог. Ты ведаеш запаведзі: не распуснічай, не забівай, не крадзі, не сведчы ілжыва, не ашуквай, шануй бацьку свайго і маці". А той сказаў Яму ў адказ: "Настаўнік, усё гэта я захоўваў з маладосці маёй". Езус, пагледзеўшы на яго, умілаваў яго і сказаў: "Табе не стае аднаго: ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе. Тады прыходзь і ідзі за Мною". А ён засмуціўся ад гэтых слоў і адышоў маркотны, бо ў яго была вялікая маёмасць. Езус паглядзеў навокал і сказаў сваім вучням: "Як цяжка будзе тым, хто мае багацце, увайсці ў Валадарства Божае!". Вучні ж дзівіліся словам Ягоным. Але Езус зноў сказаў ім у адказ: "Дзеці, як цяжка тым, хто спадзяецца на багацце, увайсці ў Валадарства Божае. Лягчэй вярблюду прайсці праз вушка іголкі, чым багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае". А яны яшчэ больш здзіўляліся і казалі адзін аднаму: "Хто ж можа збавіцца?". Езус, зірнуўшы на іх, сказаў: "У людзей гэта немагчыма, але не ў Бога; бо ў Бога ўсё магчыма".

### Мець сэрца спагадлівае і чуллівае

*Багацце і хваравітая прыхільнасць да яго з'яўляюцца сур'ёзнай перашкодай на нашым шляху да святасці. Езус перасцерагае ад няўмелага выкарыстання гэтых багаццяў, а з іншага боку, не асуджае багацце само па сабе, а ставіцца да яго як да таго, што знявольвае чалавека.*

*Не значны банкаўскі рахунак, добрая машына, сучасны дом, добрае абсталяванне, якасная або фірмовая вопратка... праклятыя, але чалавечае сэрца, якое прылiпла да гэтага і нічога іншага не бачыць.*

*Небяспека багацця настолькі небяспечная таму, што эфектыўна закрывае сэрца чалавека для патрэб іншых людзей. Робіць людзей эгаістамі, якія жывуць толькі для сябе і грунтуюць сваё жыццё толькі на ўласных магчымасцях.*

*Трэба ўмець пазбавіцца ад усяго, што перашкаджае нам на шляху да святасці, мець спагадлівае і чуллівае сэрца, якое здольна дзяліцца з кожным сустрэтым чалавекам.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб на дарозе свайго жыцця я заўсёды заўважаў патрэбы іншых і быў здольны аказаць ім дапамогу!*

*17 кастрычніка – XXIX Звычайная нядзеля*
*Мк 10, 35–45*

Падышлі да Езуса Якуб і Ян, сыны Зэбэдэя, і сказалі Яму: "Настаўнік, мы хочам, каб Ты зрабіў нам тое, пра што Цябе папросім". Ён жа адказаў ім: "Што хочаце, каб Я зрабіў вам?". Яны сказалі Яму: "Дай нам сесці аднаму праваруч, а другому леваруч Цябе ў славе Тваёй". Але Езус сказаў ім: "Не ведаеце, аб чым просіце. Ці можаце піць келіх, які Я п'ю, і прыняць хрост, якім Я ахрышчаны?". Яны адказалі Яму: "Можам". А Езус сказаў ім: "Келіх, які Я п'ю, піць будзеце, і хростам, якім Я хрышчуся, будзеце ахрышчаны, але даць сесці праваруч ці леваруч Мяне не ад Мяне залежыць, а каму падрыхтавана". Пачуўшы, дзесяць вучняў пачалі абурацца на Якуба і Яна. А Езус, паклікаўшы іх, сказаў ім: "Вы ведаеце, што тыя, хто лічыцца кіраўнікамі народаў, пануюць над імі, і вяльможы іх валадараць над імі. Але не так няхай будзе сярод вас: хто хоча быць большым сярод вас, няхай будзе вам слугою; і хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе нявольнікам усіх. Бо і Сын Чалавечы не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх".

### Узрастаць да велічы праз служэнне

*Пан Езус з вялікім разуменнем ставіцца да просьбы Якуба і Яна, але ў той жа час вельмі рашуча выпраўляе іх мысленне: "Вы не ведаеце, чаго просіце". Ён не сцвярджае, што жаданне велічы і імкненне да пратэкцыі – гэта штосьці ганебнае, але рашуча падкрэслівае, што сапраўдная веліч дасягаецца іншым спосабам. "Хто хоча быць большым сярод вас, няхай будзе вам слугою; і хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе нявольнікам усіх".*

*Прыкладам такога стаўлення з'яўляецца Ён сам – "Сын Чалавечы, які не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх". Самы нявінны з людзей становіцца цалкам салідарным з усімі, абцяжарвае сябе нашым цярпеннем, нясе нашы смуткі, бярэ на сябе нашы грахі. Яго дабравольная, прынятая з любоўю смерць на крыжы становіцца крыніцай адкуплення для кожнага чалавека.*

*Служба – адзіны шлях да сапраўднай велічы, нават сёння, у часы жорсткай барацьбы за першыя месцы. Да гэтага нас, якія заняты сваімі справамі, якія хочам, каб нас шанавалі, заўважалі, якія хочам нешта значыць, заахвочвае Боскі Збаўца.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб маё штодзённае жыццё было служэннем, якое вядзе да сапраўднай велічы!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### КСЁНДЗ ПАВЕЛ ЗВЯЖЫНСКІ!

*Віншуем Вас з 22-ой гадавінай святарскіх пасвячэнняў і перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, баслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае сваімі дарамі. Жадаем Вам доўгага жыцця ў добрым здароўі, душэўнага супакою, радасных і шчаслівых дзён і толькі добразычлівых людзей побач.*

*Апостальскі рух "Маргарытка" і парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮЗАФУ БАГДЗЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, усмешкі, задавальнення ад святарскай паслугі, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Пан Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам і абараняе ад усяго зла, Святы Дух асвячае сваім святлом, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца. Шчасці Божа на доўгія гады!*

*Удзячныя вернікі парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ ПАЖЭЦКАМУ

*з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Вас заўсёды асвятляюць прамяні Божай міласэрнасці, а Панна Марыя выпрошвае ў свайго Сына неабходныя для Вас ласкі. Шчыра дзякуем за мудрыя навукі, за імкненне прыблізіць нас да Бога. Няхай праца ў нашай парафіі прынясе добры плён.*

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне касцёла св. Францішка з Асізі ў г. Свіслач*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ ШМЫГІНУ

*з нагоды імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нястомна апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна пераЖываць кожны дзень.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міжэрычаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АРТУРУ МАЛАФЕЮ

*з нагоды імянін шчыра жадаем патрэбных ласкаў ад усемагутнага Бога, апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Езус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы а. Піо нястомна чувае над Вамі. Дзякуем за добрыя словы, уражлівасць і чуласць.*

*З павагай і малітвай вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ ПЫШЫНСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага святла, супакою, цярплівасці, шчаслівай усмешкі на твары, зычлівых сэрцаў побач, гатовых прыйсці на дапамогу, а таксама мноства радасных хвілін на жыццёвым шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены шчасцем, радасцю, дабрынёй і надзеяй. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб Вы заўсёды з вялікай радасцю служылі Богу і людзям. Мы вельмі Вас цэнім і молімся аб доўгіх гадах жыцця. Шчыра дзякуем за кожную Вашу паслугу ў сакраментах, кожнае добрае слова і параду, за тое, што Вы вельмі добры гаспадар сваёй святыні. Молімся, любім, паважаем і ганарымся Вамі!*

*З удзячнасцю Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Рандзілаўшчыне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ІГАРУ АНІСІМАВУ

*з нагоды дня нараджэння і 10-годдзя душпастырскага служэння ў нашай парафіі перасылаем сардэчныя пажаданні. Жадаем апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём святла і моцай нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна злучаць Вас з Богам, каб ніколі не аддаліліся ад Яго, а наша гарачая і сардэчная малітва няхай будзе для Вас падтрымкай у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў на ніве Пана і ў Вашым жыцці. Шчасці Божа на доўгія гады!*

*З дарам малітвы малітоўная група і парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## У рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) у Гродне распачынаецца курс "Альфа".

*Першая сустрэча адбудзецца* ***6 кастрычніка ў 19.00.*** *Сустрэчы будуць праходзіць* ***па серадах а 19-ай гадзіне.***

*У праграме – вячэра, выклад тэмы і свабодная дыскусія па пытаннях, якія цікавяць удзельнікаў.*



*"Альфа" – курс з 12-ці заняткаў практычнага знаёмства з хрысціянствам, адкрыты для ўсіх незалежна ад веравызнання.*

*Далучыцца да групы можна* ***да 27 кастрычніка.*** *Больш падрабязная інфармацыя –* ***па тэлефоне (8 029) 780-30-98.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Падчас адпустовай св. Імшы ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Івянцы ганаровы арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў, што на беларускай зямлі культ св. арханёла Міхала існуе з даўніх часоў і вельмі моцна ўкаранёны ў набожнасць нашага народа.

"У мінулым годзе, калі на нашай Бацькаўшчыне распачаўся грамадска-палітычны крызіс, па нашых парафіях ва ўсіх дыяцэзіях адбылася вялікая перэгрынацыя фігуры св. арханёла Міхала, якая была прывезена з месца яго аб'яўленняў у Італіі. Такім чынам мы маліліся аб мірным вырашэнні крызісу. Сёння давяраем сябе, нашы сем'і, парафіі і Радзіму гэтаму магутнаму нябеснаму апекуну, нашаму заступніку", – падкрэсліў арцыпастыр.




**рэлігійны часопіс**

У Бібліі выраз "эзер ке-негдо" ("адпаведная дапамога") сустракаецца 20 разоў, і кожны раз – у апісанні Бога, які прыходзіць як Збаўца ў самую безвыхадную сітуацыю чалавека. Толькі аднойчы гэты выраз апісвае чалавека – у момант стварэння жанчыны.

У сямейных адносінах Бог даў жанчыне ролю такога "шэрага кардынала" ў станоўчым сэнсе. Памочнік, з аднаго боку, не стаіць на чале, але ён мусіць больш бачыць і чуць, глыбей разумець сітуацыю. Яшчэ яму ўласцівыя цярплівасць, ураўнаважанасць і альтруізм. Аднак галоўнае, што Бог уклаў у жаночую душу – гэта імкненне наладжваць адносіны, кахаць і быць каханаю. Імкненне да знешняй і, перадусім, унутранай прыгажосці.




**беларуская рэдакцыя**

Святы Пасад далучыцца да правядзення IV Дня катакомбаў (натуральныя ці штучныя падзямеллі, якія складаюцца з вузкіх галерэй, калідораў і невялікіх памяшканняў). Пілігрымам і турыстам у Рыме і Лацыё прапануюць шэраг маршрутаў, якія дапамогуць адкрыць свет хрысціянскіх сімвалаў старажытнасці. У Рыме і яго ваколіцах налічваецца больш за 60 катакомбаў агульнай працягласцю 150 км. З усіх вядомых катакомбаў сталіцы Італіі для наведвальнікаў адкрыты толькі некалькі.

16 кастрычніка Папская камісія сакральнай археалогіі арганізуе адукацыйныя майстэрні і экскурсіі, у тым ліку для дзяцей і невідушчых, у катакомбах св. Себасцьяна, св. Марцэліна і Пятра, Прысцылы, Даміцылы.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

25 верасня ў межах свайго візіту ў Гродна Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Езіч наведаў катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя.

Іерарх памаліўся перад цудадзейнай іконай Маці Божай Кангрэгацкай, якую таксама называюць Студэнцкай, што ўжо шмат гадоў ушаноўваецца ў касцёле. Затым нунцый пагледзеў панараму горада над Нёманам і некаторыя новыя святыні.

Прадстаўніка Святога Айца суправаджалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп намінат Юзаф Станеўскі і біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання – **1997;** рэгістр. **№1085;** выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3800; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.